№31 (1594)
Аўторак, 18 лютага 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас

# Народная Воля

**Надвор'е**

Сёння ўздзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі па краіне снег, парывы ветру да 2—5 м/с. Тэмпература паветра ў Гродне — 0...-2, Гомелі — 0...-1, Брэсце — +1...-2, Магілёве — 0...-2, Мінску — 0...-2, Віцебску — 0...-1. Уначы па краіне — -1...-2.



## ЗША заклікаюць беларускія ўлады «ліквідаваць хібы выбарчага заканадаўства»

ЗША далучаюцца да заклiку Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, адрасаванаму беларускім уладам, ліквідаваць асноўныя хібы ў сферах датэрміновага і мабільнага галасавання, а таксама мясцовага назірання падчас падрыхтоўкі да мясцовых выбараў у сакавіку 2003 года. Пра гэта паведаміў спецыяльны прадстаўнік ЗША ў АБСЕ Стэфан Мінекес, выступаючы днямі на пасяджэнні Пастаяннага савета арганізацыі.

Даклад С.Мінекеса быў прысвечаны ацэнцы прайшоўшага 5-7 лютага візіту рабочай групы Парламенцкай асамблеі АБСЕ ў Беларусь, мэтай якога з'яўлялся аналіз прагрэсу, дасягнутага краінай у выкананні чатырох крытэрыяў па дэмакратызацыі, устаноўленых парламенцкай "тройкай" у 2001 годзе. Такімі крытэрыямі з'яўляюцца ўдасканальванне выбарчага заканадаўства, пашырэнне паўнамоцтваў парламента, свабода СМІ, а таксама спыненне пераследу апазіцыйных дзеячаў.

"На жаль, нягледзячы на станоўчую і адкрытую пазіцыю ў дачыненні да Беларусі, прадстаўнікі групы прыйшлі да высновы, што выбарчае заканадаўства не было прыведзена ў належны выгляд з тым, каб яно магло адпавядаць рэкамендацыям, раней агучаным міжнароднымі арганізацыямі, — зазначаецца ў дакладзе. — Прадстаўнікі апазіцыйных партый па-ранейшаму не прадстаўлены належным чынам у выбарчых камісіях".

ЗША падзяляюць "расчараванне рабочай групы ў сувязі з невыкананнем Беларуссю рэкамендацый па выбарчаму заканадаўству", зазначыў С.Мінекес. "Мы таксама вымушаны прызнаць, што члены апазіцыйных партый неадэкватна прадстаўлены ў выбарчых камісіях і значнай колькасці кандыдатаў ад апазіцыі было адмоўлена ў праве рэгістрацыі з-за неістотных парушэнняў", зазначыў ён. Пры гэтым С.Мінекес падкрэсліў, што "адсутнасць на выбарах апазіцыйнай канкурэнцыі падрывае іх легітымнасць".

Адным са станоўчых фактараў развіцця сітуацыі ў Беларусі амерыканскі дыпламат лічыць аднаўленне прысутнасці АБСЕ ў краіне і прызначэнне пасла Эберхарда Хайкена на пасаду кіраўніка групы. "ЗША падтрымліваюць супрацоўніцтва з офісам АБСЕ ў Беларусі па выкананні рэкамендацый, скіраваных на правядзенне сапраўды дэмакратычных выбараў, якія могуць быць у будучым прызнаны міжнароднай супольнасцю", — гаворыцца ў дакладзе.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

## Рэзалюцыя,

**прынятая ўдзельнікамі «круглага стала», праведзенага па тэме: «Выкананне выбарчага заканадаўства Рэспублікі Беларусь пры арганізацыі выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў»**

Мы, удзельнікі "круглага стала", прадстаўнікі грамадскіх аб'яднанняў, палітычных партый, прафсаюзнага, жаночага руху, заслухаўшы даклады і абмеркаваўшы пытанні выканання выбарчага заканадаўства Рэспублікі Беларусь падчас завершаных этапаў выбарчай кампаніі, канстатуем наступнае:

Фарміраванне выбарчых камісій усіх узроўняў адбывалася з грубым парушэннем прынцыпаў дэмакратычнасці і адкрытасці, парушэннем правоў палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў. Выклікаюць занепакоенасць шматлікія факты ўтварэння ўчастковых камісій з прадстаўнікоў аднаго працоўнага калектыву, што можа паспрыяць выкарыстанню адміністрацыйнага рэсурсу і маніпуляцыям з вынікамі галасавання.

Этап рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты адбываўся ў неспрыяльнай атмасферы і нярэдка суправаджаўся ціскам на прэтэндэнтаў у кандыдаты (пагрозамі звальнення з працы, праверак падатковых органаў і г.д.), у сувязі з чым сотні прэтэндэнтаў былі вымушаныя адмовіцца ад удзелу ў выбарах.

Не спрыялі дэмакратычнасці і адкрытасці выбарчага працэсу і пастановы, прынятыя Цэнтральнай камісіяй па выбарах, тлумачэнні іншых дзяржаўных органаў, якія істотна пагоршылі ўмовы рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты, правядзення сустрэч з выбаршчыкамі, перадвыбарчай агітацыі, вырабу агітацыйнай прадукцыі, правядзення назірання за выбарамі. Зацверджаны Цэнтральнай камісіяй па выбарах узор пратакола аб выніках галасавання на ўчастку не адлюстроўвае раздзельнага падліку галасоў, што таксама можа паспрыяць маніпуляцыям з галасамі выбаршчыкаў, фальсіфікацыям вынікаў галасавання.

Мы, удзельнікі "круглага стала", канстатуем, што пры арганізацыі вышэй указаных этапаў выбарчага працэсу ўладамі так і не былі ўлічаныя рэкамендацыі БДіПЧ АБСЕ, Асацыяцыі арганізатараў выбараў краін Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, а таксама прапановы па далейшай дэмакратызацыі і ўдасканаленні выбарчага заканадаўства Рэспублікі Беларусь, якія прапаноўваліся прадстаўнікамі палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў. Гэта дае падставы сцвярджаць, што выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў не адпавядаюць міжнародным стандартам у галіне выбараў, а легітымнасць абраных у такіх умовах органаў мясцовай улады будзе падвяргацца сумневу.

**ГА "Праваабарончы цэнтр "Вясна",**
**РГА "Беларускі Хельсінкскі камітэт",**
**ГА "Беларускі рэспубліканскі клуб выбаршчыкаў",**
**ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў",**
**ГА "Прававая дапамога насельніцтву",**
**ГА "Фонд імя Льва Сапегі",**
**ГА "Жаночы рух "Адраджэнне Айчыны",**
**ГА "Беларускі фонд "Касіяпея",**
**ГА "Фонд "Адкрытае грамадства",**
**ГА "Цэнтр "Супольнасць",**
**Партыя БНФ,**
**Аб'яднаная грамадзянская партыя,**
**Партыя камуністаў Беларуская,**
**Беларуская партыя працы,**
**Ліберальна-дэмакратычная партыя Беларусі.**



## «Разам мы — сіла!»

**Прадпрымальнікі Беларусі вырашылі аб'яднацца**

У канцы мінулага тыдня ў Мінску прайшла сустрэча лідэраў прадпрымальніцкага руху. Сумесную заяву, лейтматывам якой можа служыць вядомы слоган "Разам — мы сіла!", прынялі сустаршыня грамадскага аб'яднання "Прыватная ўласнасць" **Леанід Малахаў,** старшыня стачкама прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь **Валерый Леванеўскі**, член Аб'яднанага савета прадпрымальнікаў **Анатоль Шумчанка** і іншыя.

Лідэры прадпрымальнікаў вырашылі падтрымаць народны марш "За лепшае жыццё", які плануецца правесці 12 сакавіка ў буйных гарадах Беларусі, а таксама выступілі з ініцыятывай агульнанацыянальнай забастоўкі ў гэты дзень.

На думку ўдзельнікаў сустрэчы, "у сённяшняй сітуацыі эфектыўнымі могуць быць толькі сумесныя дзеянні, і таму было прынята рашэнне, што ўсе далейшыя мерапрыемствы будуць праводзіцца сумесна".

"2002 год стаў для ўсіх прадпрымальнікаў Беларусі годам барацьбы за выжыванне. 27 студзеня 2003 года была здзейснена чарговая спроба абанкруціць прадпрымальнікаў. Дэкрэт №3, дэкрэт №4, указ №40 — гэта чарговая атака на малы бізнес, — сказана ў сумесна прынятай прадпрымальнікамі заяве. — Мы расцэньваем прыняцце вышэйзгаданых дакументаў як свядомыя дзеянні чыноўнікаў, мэта якіх поўнасцю падпарадкаваць ці знішчыць малы бізнес".

Лідэры бізнес-руху звярнуліся да ўсіх прадпрымальнікаў з заклікам "забыцца пра рознагалоссі і аб'яднацца ў барацьбе за лепшае жыццё", а таксама запатрабавалі ад уладаў "адмяніць дыскрымінацыйныя дэкрэты, увесці маратoрый на праверкі кантралюючых органаў, якія вядуць да канфіскацыі маёмасці ў прадпрымальнікаў".

За каментарыем "Народная воля" звярнулася да аднаго з актыўных арганізатараў забастоўкі 12 сакавіка **Леаніда Малахава.** Вось што ён паведаміў:

— Гэта будзе галоўная акцыя ў плане нашых мерапрыемстваў на бліжэйшы час у абарону правоў прадпрымальнікаў.

**— Ці паедуць прадпрымальнікі з Гомеля ці Гродна ў Мінск для ўдзелу ў маршы?**

— Не, яны прымуць удзел у акцыях у сваіх гарадах.

**— Як вы ацэньваеце маштабы забастоўкі 12 сакавіка?**

— У гэты дзень па ўсёй краіне будзе прыпынена праца прадпрымальнікаў. Мы зробім усё, каб менавіта ў гэты дзень не было аніякага расколу і плануем запрасіць прыняць удзел у забастоўцы і шэсці максімальную колькасць людзей, занятых у малым бізнесе. Я спадзяюся, што ўсе рынкі і выставы-продажы па ўсёй краіне ў гэты дзень прыпыняць працу. Гэта будзе сапраўды агульнанацыянальная акцыя. Наш агульны вораг — галеча. І мы цудоўна разумеем, што, калі ў пакупніка не будзе грошай у кішэні, ніхто не набудзе нашых тавараў і паслуг, не будзе наогул ніякіх перспектыў і ў малога бізнесу.

**Алесь СІЛІЧ.**

## Кто санкционировал задержание и освобождение из СИЗО КГБ Дмитрия Павлюченко?

Этот и многие другие вопросы интересуют членов депутатской группы "Республика" Палаты представителей Национального собрания Беларуси.

Депутатская группа "Республика" Палаты представителей Национального собрания Беларуси направила запрос на имя председателя КГБ Леонида Ерина относительно вынесенного прокуратурой постановления о приостановлении предварительного следствия по розыску без вести пропавших вице-спикера Верховного Совета 13-го созыва Виктора Гончара и предпринимателя Анатолия Красовского. Парламентариев интересует проблема, как можно прекращать активный поиск, если остались невыясненными вопросы, ответы на которые, как говорится, могут лежать на поверхности. Например, кто санкционировал задержание и освобождение из СИЗО КГБ Дмитрия Павлюченко? Каковы результаты обыска, проведенного при содействии группы "Альфа" КГБ у него дома и в служебном кабинете? Где находятся изъятые при обыске вещдоки? Установлена ли личность неизвестного человека в милицейской форме, осуществлявшего опрос граждан, проживающих вблизи места похищения Гончара и Красовского? Кем сделан вывод о принадлежности капель крови на месте похищения Виктору Гончару и стекла к фарам автомобиля (джип "Черокки") Анатолия Красовского? Наконец, кто отдал распоряжение вернуть шедший из Свердловска в Минск вагон со спецтехникой для обнаружения зарытых в землю объектов?

Видя нерасторопность белорусской Фемиды, депутаты группы "Республика" обратились за содействием к председателю Совета Федерации Федерального собрания России Сергею Миронову. "Республиканцы" просят оказать воздействие на Генеральную прокуратуру и правоохранительные органы Беларуси в плане активизации розыска пропавших.

**Сергей АНИСЬКО.**

## «Без праблем»

*Прэм'ера рубрыкі*

***Што больш за ўсё хвалюе сучаснага мужчыну? Што падаецца галоўным у жыцці? Праблема здаволенага славалюбства і праблема натоленай ці ненатоленай паляўнічай страсці. Кар'ера і каханне.***

Калі мужчына не можа зарабляць грошы, а ў краіне няма умоваў для творчага і прафесійнага росту, калі ён церпіць фіяска ў каханні, — ад бяссілля пачынае піць. Скардзіцца на жыццё, і — становіцца нецікавым для навакольных, калег, жанчын.

Напэўна, паспяховы, самадастатковы мужчына — гэта той, хто шмат чаго дабіўся ў прафесійным плане і не ведае адмоваў у каханні. Але ці многія з іх могуць пахваліцца, што ніколі не сутыкаліся з праблемамі. Пытанне ў тым, як яны іх вырашалі.

Пра гэта я паспрабавала шчыра пагутарыць з героямі новай рубрыкі "Народнай волі" — "Без праблем". З мужчынамі рознага ўзросту і розных прафесій...

***Першы матэрыял чытайце ў "Народнай волі" заўтра, 19 лютага.***

**Марыя ЭЙСМАНТ.**



НЕЗЛОБИВЫЕ ЗАМЕТКИ

## НАЛОГ НА ПРАВО ДЫШАТЬ

**Семен БУКЧИН**

На недавней показательной "накачке" правитель заявил своим министрам: *"Население ободрали больше, чем надо"*. Фраза, достойная глубочайших размышлений. Из нее можно сделать самые разнообразные выводы. Например, такой: "В принципе население обдирать следует, но не до такой же степени! Не так нагло! С умом обдирать надо!" Вот и главный профсоюзный защитник наш г-н Козик брякнул по телевидению в порыве откровенности, что, мол, грянувшие с января дикие коммунальные платежи не следовало сразу обрушивать на головы того же населения, а растянуть хотя бы на три месяца, чтобы постепенно, чтобы привыкли... О том, что такие платежи вообще неподъемны для рядового члена профсоюза, об этом г-н Козик и не заикался. Принцип ясен: драть нужно с обывателя, но так, чтобы ему не было чересчур больно. Из чего видно, что г-н Козик большой мастер по части социальной анестезии.

Итак, установлено на самом верху: нас *"ободрали больше, чем надо"*. Очень хочется знать:

1. Насколько больше?
2. Как, в принципе, нас следует обдирать?

Первый вопрос важен с точки зрения того, что если взяли, то есть ободрали нас "больше, чем надо", то по закону "ободранное" сверх нормы следует вернуть.

Ну а второй вопрос, естественно, связан с первым. Мы очень хотели бы, чтобы были, наконец, установлены разумные нормы "обдирания". Поскольку "обдирать" все равно будут. Это мы знаем наверняка.

И, похоже, нам уже обещана серьезная защита. На той же встрече с министрами было заявлено: "Этот год станет годом защиты нашего населения, в том числе от родного правительства..." Кто защитит? Натурально — Он! Но ведь Он же сам это правительство и поставил, ни одного министра без его указа не назначают. Выходит, Он назначил плохое правительство, а теперь вроде как дистанцируется от него. Не желает делить с ним, Его правительством, ответственность за обнищание народа. И даже обещает нам защиту от него, Его собственного правительства.

От таких речей крыша может поехать. И даже вопрос может зародиться нехороший: а может, нам самим за свои права вступиться, ну, чтобы не обдирали "больше, чем надо"? Выйти, к примеру, на улицы громадными, организованными толпами от разных заводов и организаций, прийти к тому же правительству и заявить: так, мол, и так, невмоготу нам больше жить посреди этой обдираловки... Так, как это делают нормальные люди на Западе, когда чувствуют, что власти их обманывают.

Так ведь то Запад. Там гражданин у себя дома. Свободно изъявляет свою волю. А у нас разве возможно такое? Ты сначала бумажку подай, что волю изъявить хочешь, а власть ее рассмотрит под микроскопом, да скорее всего и запретит. Потому как такая демонстрация чаще бунтом ей представляется. И вообще, мало ли чего может выйти? Поэтому лучше запретить. А вот что можно нашему народу, так это жаловаться, что называется, до потери пульса. Жалуйся, пиши бумажки — это не запрещено. Жалующийся и скулящий белорус — к этой картинке власть привыкла и вполне одобряет ее. Гражданин, пишущий жалобу, это не бунтовщик. Это, можно сказать, родная для власти нашей фигура. Такого и пожалеть можно — выдать к красному дню социальную помощь в виде шести тысяч рублей. Пускай кланяется и благодарит своего благодетеля.

А еще лучше будет, ежели этот "недостаточный", бедствующий гражданин помрет с голодухи или от болезни. Это ведь какая тяжесть сразу свалится с плеч государственных! Пенсию платить не надо! Жилье освободится! Всем хорошо. И гражданин больше не страдает. И у власти забот убавилось. Наилучшее решение вопроса!

Поэтому не будем задавать риторических вопросов: куда, мол, смотрит власть, в то время, как с карты республики ежегодно исчезает немалый городок с населением более 50 тысяч человек? На кладбище она смотрит. Оно — единственная ее, власти, надежда. Меньше ртов — меньше забот. Правда, тут другая проблема подкрадывается: а кто работать будет в вымирающей стране? Но, как показывает история, такой вопрос всегда меньше всего волновал временщиков. Их всегда заботило лишь одно: крепость собственных кресел и возможность хорошо и сытно пожить на собственном веку. А дальше, после меня, — хоть трава не расти!

Тем не менее высочайший приказ "обдирать с умом" выполнять нужно. И здесь я хочу защитить "родное правительство". Уж как оно старается! Чего только не навыдумывало в поисках наилучшего "обдирания". Построил человек кооперативную квартиру, давно за нее рассчитался. А ему сегодня говорят: плати "за лишнюю площадь". И в толк не может взять гражданин: что такого может быть "лишнего" в его личной собственности? Но на то оно и государство наше, чтобы дать почувствовать гражданину, что это ему только кажется, что ему в этой стране что-то действительно принадлежит. Не можешь платить за приличную квартиру, выселяйся, сообразно своим материальным возможностям, в жалкую, занюханную "полуторку". Дорого тебе платить 24 тысячи за квадратик открытой автомобильной стоянки — продавай свой ржавый "жигуль", будешь на дачу пешком со старухой женой таскаться.

По средствам надо жить, дорогой мой! Так, как живут и Он, и Его нелюбимые им министры.

А что до помощи родному правительству, то вот мой проект. А почему бы не брать за воздух с каждого гражданина? В самом деле, ходят себе паразиты по улицам, дышат бесплатно! А кислород — он разве не государственный? Вот и установить норму. С иностранцев, естественно, в пять раз дороже.

Уверяю вас — никто не обидится. Наш народ ко всему привычный. Разве что полемика общественная завяжется на тему, где воздух похуже, где получше. Ну так наш народ, известное дело, он большой любитель поговорить. И только?..

## Пример компромисса

В понедельник, 17 февраля, глава офиса ОБСЕ в Минске посол Эберхард Хайкен (Германия) провел первую пресс-конференцию в новом качестве. Он подробно рассказал о том, как после закрытия де-факто Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ в Минске на ее месте создавался офис ОБСЕ. По словам посла Хайкена, и белорусским властям, и международной организации пришлось кое в чем уступить. Это решение, воплотившее в себе компромиссный подход, Эберхард Хайкен назвал решением в духе ОБСЕ.

Посол сообщил, что официально он приступил к работе 10 февраля. За это время он встретился с министром иностранных дел Беларуси Михаилом Хвостовым и помощником главы государства Игорем Лещеней. По словам господина Хайкена, у него также состоялось несколько случайных, незапланированных встреч с общественными деятелями Беларуси.

**Владимир ГЛОД.**

## Живой щит из белорусских журналистов?

**Редакции многих изданий в Минске получили официальные предложения съездить в Ирак. Инициатором предстоящего мероприятия выступило иракское посольство — одно из самых многочисленных среди дипмиссий в Беларуси. Фактически белорусским журналистам предлагается выступить в роли живого щита в случае очень вероятной войны.**

Нельзя утверждать, что такое предложение их сильно обрадовало. И журналисты ряда изданий в ней участвовать не намерены. С протестом по поводу планируемой акции Багдада намерена выступить Белорусская ассоциация журналистов (БАЖ), считая преступным использовать журналистов (да и вообще людей) в качестве живого щита.

По некоторым данным, приглашение посетить Ирак раз может найти "отклик" среди сотрудников государственных СМИ Беларуси, которые без разрешения президентской Администрации за границу выезжать не могут. Например, их посылали накануне войны на Балканах, в Белград от Белорусского телевидения. Слободан Милошевич тогда с телеэкранов не сходил. А жизнерадостный репортер из Минска бойко рассказывал о добровольцах, почему-то цыганах, якобы готовых отразить натовскую агрессию. Где теперь те добровольцы обитают — неизвестно. Зато известно, где оказался экс-президент СРЮ. Американцы обещают "упаковать" и иракского диктатора.

В иракском посольстве в Минске сообщили, что чартерным авиарейсом в Багдад полетят 7 марта не только журналисты. Оказывается, в мероприятии "солидарности с иракским народом" должны участвовать и другие категории белорусских граждан. Видимо, среди них окажутся и те, кто недавно устраивал в Минске акции протеста против США. В посольстве также сказали, что все расходы по доставке и 5-дневному пребыванию в Ираке берет на себя иракская сторона. И что необходимое разрешение на чартер от ООН получено. Но пока желания поехать никто не изъявил. Любезно попросили через неделю им перезвонить.

Пресс-секретарь белорусского внешнеполитического ведомства Андрей Савиных пояснил, что, пока никаких официальных предостережений, рекомендаций белорусским гражданам по поводу поездок в Ирак нет. Как и указаний об эвакуации сотрудников посольства Беларуси в Багдаде.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ.**

## Дранько-Майсюк раіць усім чытаць «Рухнаму» Ніязава

На мінулым тыдні ў Доме дружбы адбылася прэзентацыя кнігі прэзідэнта Туркменіі Сапармурата Ніязава "Рухнама" на беларускай мове.

Прэзентацыя адбылася ў рамках урачыстага мерапрыемства з нагоды 10-годдзя ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Беларуссю і Туркменістанам. На мерапрыемстве нават прысутнічаў міністр замежных спраў Беларусі Міхаіл Хвастоў.

Кніга пажыццёвага прэзідэнта Туркменістана выйшла ў Беларусі накладам 2000 асобнікаў. Па некаторых звестках, фінансавым бокам выдання займаліся Беларускі фонд культуры і унітарнае прадпрыемства "Светач", дзе і была надрукавана "Рухнама".

Цікава, што ў выхадных даных кнігі не пазначаны прозвішчы перакладчыкаў. І яны, напэўна, не сталі б вядомыя шырокай грамадскасці, калі б з гэтага факта не стаў рабіць таямніцы Андрэй Вірчак — рэдактар "Светача". Па словах Вірчака, перакладчыкамі духоўнага кодэксу Туркменбашы сталі вядомыя беларускія літаратары Леанід Дранько-Майсюк, Анатоль Кудравец, Анатоль Бутэвіч і Мікалай Сільчанка, а прадмову да "Рухнамы" напісаў старшыня Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп.

На думку вядомых беларускіх літаратараў, гэта выглядае па меншай меры незразумела. Як вядома, сёння ў Туркменістане ўсталяваны рэжым аднаго чалавека. У краіне няма незалежнай прэсы, забаронена апазіцыя. А нядаўна былі асуджаны каля 60 чалавек (некаторыя пажыццёва) быццам бы за тое, што яны зрабілі замах на жыццё Сапармурата Ніязава.

**Леанід Дранько-Майсюк** прызнаўся, што перакладаў вершы Ніязава на беларускую мову.

— Я разгарнуў кнігу, — кажа паэт, — і прачытаў: "Туркмена вялікім туркменам зробіць толькі туркмен". Гэтая думка мне вельмі спадабалася. І я прачытаў яе пасвойму: "Беларуса вялікім беларусам зробіць толькі беларус". Мне захацелася, каб гэты радок прагучаў па-беларуску.

Пасля гэтага вобразу пачалася звычайная літаратурная праца. Аб'яднаў нас прэзідэнт Беларускага фонду культуры Уладзімір Гілеп. У кожнай справе шмат залежыць ад таго, хто цябе запрашае, уводзіць у гэтую справу. Над гэтым перакладам працавалі вельмі сімпатычныя мне людзі. А ўвогуле я заўсёды вітаю кожнае выданне на беларускай мове, бо кніг па-беларуску выходзіць вельмі і вельмі мала. На беларускую мову павінна быць перакладзена ўсё. І не толькі тое, што мае мастацкую, але і гістарычную вартасць.

**— Але Вы, напэўна, ведаеце пра тое, што зараз адбываецца ў Туркменістане, што 60 чалавек абвінавацілі ў замаху на Ніязава і асудзілі?**

— Каб прапанова ўдзельнічаць у гэтым праекце прыйшла пасля гэтай падзеі, якая адбылася ў Ашхабадзе, я б, вядома, адмовіўся...

А Вы, між іншым, чыталі гэтую кнігу?

**— Яна яшчэ не прадаецца.**

— Я ўсім раю яе прачытаць. Кніга, дарэчы, дастаткова цікавая. Аўтар яе — літаратар, Ніязаў скончыў літінстытут. І калі адкінуць усе палітычныя моманты, хаця, зразумела, палітычны туман не развееш, бо ён дастаткова густы, кніга вартая таго, каб яе прачыталі.

Як развеяць палітычны туман і ўбачыць сапраўднае аблічча Туркменбашы, беларускі паэт не сказаў. А шкада. Можа, калі б ён не імкнуўся ў дадзеным выпадку выглядаць эстэтам, ён быў бы больш шчырым?..

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

